ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА—PRICE $ 1.25

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
Post address: Bielarus, P.O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432

Год XXXIV № 327 Нью Ёрк - сакавік-ліпень—1985—March-July - New York Vol. XXXIV, № 327

## "ШЛЯХ МОЛАДЗІ" І ЯЗЭП НАЙДЗЮК

13-га лютага сёлета мінуў год ад часу сьмерці сьветлае памяці Язэпа Найдзюка, дырэктара Беларускай Друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні, рэдактара часапісу „Шлях Моладзі", аўтара папулярнай гісторыі Беларусі „Беларусь учора і сяньня", аднаго з выдатнейшых дзеячоў моладзі ў Заходняй Беларусі міжваеннага пэрыяду.

Беларусы ў вэрсальскай Польшчы ня мелі свае арганізацыі моладзі, і ўсе захады перад польскімі ўладамі атрымаць дазвол канчаліся адмовай „без паданьня матываў".

У 1929 г. было заснавана Таварыства Беларускай Моладзі „Будучыня", справа легалізацыі якога прайшла ўсе адміністрацыйныя інстанцыі ад Віленскага старосты да міністра нутраных справаў і закончылася ў 1932 г. адказам міністра, што просьба пакінутая „бэз увзглендненя" (без задавальненьня).

Адмова гэтая аднак ня спыніла захадаў. Чарговая спроба арганізаваць спартовае таварыства моладзі „Гайсак" таксама скончылася адмовай. У 1937 г. ізноў былі ўзноўленыя стараньні арганізаваць саюз беларускае моладзі, але гэтым разам ужо Віленскае староства не дало дазволу нават на скліканьне арганізацыйнага сходу.

Існавалі, праўда, арганізацыі студэнцкай моладзі: Беларускі Студэнцкі Саюз, заснаваны яшчэ ў 1920 г., Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы ды кароткі час — студэнцкая карпарацыя „Скарынія" пры Віленскім Унівэрсытэце Сьцяпана Баторага, атаксама арганізацыя беларускіх скаўтаў пры Віленскай Беларускай Гімназіі. Але арганізацыі гэтыя мелі спэцыфічны й абмежаны характар дзейнасьці ды не маглі прэтэндаваць на масавае сяброўства беларускай моладзі.

У падпольлі існаваў яшчэ Камсамол Заходняй Беларусі, які меў тэрытарыяльны, а не нацыянальны характар, і да Камсамолу належалі, апрача Беларусаў, таксама Палякі, Гэбрэі, Літоўцы ды іншыя.

У гэтым часе гарады й мястэчкі Заходняй Беларусі наваднялі польскія арганізацыі моладзі розных палітычных кірункаў, рознага характару дзейнасьці, ад рэлігійных да вайсковых, тыпу „стрэльцаў" і „кракусаў", якія мелі адну мэту — палянізаваць беларускую моладзь.

У такіх няспрыяльных для арганізаванага жыцьця беларускай моладзі абставінах група студэнтаў, сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу, і маладых друкароў Беларускай Друкарні імя Францішка Скарыны знайшла ўдалы выхад, заснаваўшы й залегалізаваўшы ў 1929 г. часапіс „Шлях Моладзі". Выданьне гэтае, дзякуючы арганізацыйным здольнасьцям, лагоднаму характару й суцэльнай адданасьці справе Язэпа Найдзюка, на працягу 10-ёх год, да пачатку Другой Сусьветнай Вайны, выконвала функцыю ня толькі цэнтралі арганізацыі беларускае моладзі, але ў вялікай меры і каардынатара розных палітычных плыняў тагачаснай моладзі, якую лучыла любасьць і праца для беларускага народу.

Гэта ня значыць, што часапіс „Шлях Моладзі" быў палітычна бясхрыбетны. Часапіс быў зьвязаны зь Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыяй ў сэньсе ідэялягічным і практычна-арганізацыйным. Аднак створаная Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыяй шырокая плятформа давала магчымасьць супрацоўніцтва для маладых людзей розных палітычных перакананьняў.

На старонках таго самага нумару „Шляху Моладзі" друкаваліся і справаздачы зь першамайскіх сьвяткаваньняў і дэманстрацыяў і заклікі да ўдзелу ў беларускай каталіцкай пілігрымцы ў Кальварыю.



**Былыя вязьні лягеру ў Картускай Бярозе ў 1939 годзе пасьля выхаду зь лягеру. Сядзяць зьлева направа: Уладыслаў Паўлюкоўскі (Уладініцкі, Язэп Найдзюк і Язэп Шнаркевіч. Стаяць зьлева направа: Альфонс Шутовіч, Сурма (Украінец) і Віктар Ермалковіч.**

Вялкім клопатам усіх нашых выдавецкіх пачынаньняў заўсёды была й ёсьць матар'яльная, фінансавая база. Язэп Найдзюк разьвязаў фінансавыя клопаты часапісу ахвярнай працай выдаўцоў. Трох друкароў Беларускае Друкарні імя Францішка Скарыны дамовіліся з гаспадарамі друкарні працаваць дарма адну гадзіну на дзень, а за гэта друкарня давала магчымасьць карыстацца дармова з паперы й друкарскіх уладжаньняў для рэгулярнага, раз на месяц, а апошнімі гадамі два разы на месяц, выдаваньня часапісу. Гэтая ўмова адзначалася ў кожным нумары часапісу „Шлях Моладзі" на апошняй старонцы словамі: „ ,Шлях Моладзі' друкуецца ў Беларускай Друкарні імя Францішка Скарыны ў Вільні, Завальная 1-2, коштам працы Янкі Багдановіча, Язэпа Найдзюка й Альфонса Шутовіча".

Створаная такім спосабам фінансавая база давала магчымасьць рэдкалегіі часапісу з сабранай падпіскі й ахвяраў праводзіць розныя праекты, як будаваньне помнікаў на магілах беларускіх пісьменьнікаў, выдаваньне папулярных кніжак для самаадукацыі ды іншыя.

Часапіс „Шлях Моладзі" друкаваўся двума альфабэтамі: кірыліцай і лацінкай у адным нумары, і на апошняй старонцы вокладкі былі зьмяшчаныя абодвы альфабэты. У тым часе беларускае школьніцтва ўжо было ў працэсе ліквідацыі і для шмат каго з маладых людзей, у тым ліку й для аўтара гэтых успамінаў, часапіс „Шлях Моладзі" быў першым падручнікам беларусаведы.

На старонках часапісу друкаваліся артыкулы зь гісторыі Беларусі, зь гісторыі беларускай літаратуры, гісторыі беларускага адраджэньня, геаграфіі, народнай культуры; апрача гэтага, даваліся артыкулы аб палажэньні Беларусаў у Польшчы ды багатая хроніка.

Назаўсёды застанецца ў маёй памяці лета 1930 году, калі, зьбіраючы этнаграфічныя матар'ялы ў Ашмяншчыне заехаў у нашую вёску Марыян Пяцюкевіч, першы рэдактар часапісу „Шлях Моладзі", тады студэнт этнаграфіі Віленскага ўнівэрсытэту, ды пасьля даўгіх гутарак з найстарэйшымі вяскоўцамі аб розных зьявах народнай культуры, перад ад'ездам раздаў нам, вучням польскіх школаў, розныя нумары часапісу „Шлях Моладзі" ды зборнікі вершаў Францішка Багушэвіча й іншыя кнігі. І я, перачытаваючы па колькі разоў пакінутыя нумары часапісу й кніжкі, за час канікулаў няблага асвоіў беларускую кірыліцу.

Некаторыя артыкулы ў „Шляху Моладзі" друкаваліся сэрыямі ды

(Заканчэньне на 4-й б.)

## ПЛЯКАТ ПРА М. КУКАБАКУ

Плякат гэты выданы лёнданскім аддзелам Амнэсты Інтэрнашэнал. Вялікага фармату 1 м. удаўжкі й 65 цм. ушыркі, з чорным фонам і бельмі літарамі, плякат прадстаўляе колькі найважнейшых мамэнтаў з жыцьця беларускага іншадумца Міхала Кукабакі, рабочага родам з Бабруйску, які ўжо гадамі гібее ў савецкіх турмах, „псыхушках" і лягерох прымусовае працы.

Канфлікт у Міхала Кукабакі з савецкай уладай выбухнуў, калі ў 1968 г. савецкае войска акупавала Прагу. Міхал Кукабака, быўшы тады ў Кіеве, пайшоў у чэхаславацкае пасольства там і склаў пратэст супраць савецкае інтэрвенцыі ў Чэхаславаччыне. Мамэнт гэты паказаны першым на плякаце.

На плякаце, ілюстраваным рысункамі й фатаграфіямі Кукабакі ды некаторых месцаў ягонага зьняволеньня, зьмешчаная таксама цытата з Кукабакавых выказваньняў у часе суду над ім. Беларускі іншадумец сказаў:

„Найпершае ды найважнейшае права чалавека а фактычна абавязак перад самым сабой, гэта трымацца сваіх перакананьняў. Я баюся турмаў, лягероў, псыхбольніцаў... але яшчэ больш як турмы баюся хлусьні, нікчэмных паводзінаў ды свайго ўдзелу ўва ўсім гэтым. Мне ня сорамна, калі мяне завуць вязьнем, але мне прыкра, што я нарадзіўся ў гэтай краіне і мне сорамна, што блізу трыццаць гадоў я быў сам паслухмянай прыладай гэтай сыстэмы. Дык мае пагляды даўно зьмяніліся. Я хачу жыць паводля сваіх перакананьняў, чытаць, што мне падабаецца, і глядзець, што хачу. І вы судзіце мяне за гэтае жаданьне".

Плякат пытаецца вялікімі літарамі: „ЦІ КУКАБАКА СВАБОДНЫ?"

Плякат паведамляе, што здароўе ў Міхала Кукабакі вельмі слабое і заклікае пасылаць просьбы да савецкага пасла ў Лёндане, каб Міхалу Кукабаку было дазволена эміграваць на Захад. Пададзены адрыс савецкага пасольства:

H.E. the Ambassador
Soviet Embassy
13 Kensington Place Gardens
London W8 4QX ENGLAND

Плякат можна выпісаць (пажадана пры гэтым пасланць ахвяру на падтрыманьне справы абароны правоў чалавека, якою займаецца Амнэсты Інтэрнашэнал), пішучы на адрыс:

Hampstead Unitarians A.I. Group
Flat 2, 28 Chesterford Gardens
London NW3
ENGLAND

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Беларускага Народу**

**„Памятай пра Ісуса Хрыста з насеньня Давідавага, уваскрослага зь мёртвых паводля майго евангельля"**
(2 Цім. 2:8)

**Хрыстос Уваскрос!**

Дарагія Браты й Сёстры!

Сьвяты апостал Павал, ужо будучы ў гадох, турбаваўся, каб ягоны вучань Цімахвей прапаведаваў тую самую праўду, якую ён, Павал, прапаведаваў, аніяк не зьмяняючы. Так, як за часамі Сьвятых Апосталаў, гэтак і ў нашыя дні, людзі маюць сьхільнасьць адыходзіць ад простай існасьці, на якой пабудаваная вера, імкнуцца да нейкага большага й менш зразумелага мудраваньня. А існасьць гэтая ясная.

Сьвяты апостал Павал кажа: „Бо я перш-наперш пераказаў вам тое, што й сам прыняў, што Хрыстос памёр за грахі нашы, паводля пісаньня" (I Кар. 15:3). На ўвасабленьні, жыцьці, сьмерці і ўваскрасеньні Ісуса грунтуецца нашае спасеньне. Той, хто верыць у гэтую праўду, правільна верыць у Сьвятое Евангельле, а вера ў Сьвятое Евангельле бяз сумніву вядзе да вечнага збаўленьня. Але чалавек жадае новага. Тое, што ён чуе праз тысячагодзьдзі пра Божае ўвасабленьне й сьвятое жыцьцё, пра пакутную сьмерць і запраўднае ўваскрасеньне Госпада, для яго перастарэлае ўжо.

Наш Госпад і Збавіцель Ісус Хрыстос сказаў вучням Сваім: „Іду прыгатаваць вам месца. І як пайду прыгатую вам месца, прыйду ізноў і прыйму вас да Сябе Самога, каб там, дзе Я, і вы былі" (Ян. 14:2-3). Сам Госпад сказаў, што на трэці дзень Ён вернецца, і збылося: пасьля сьмерці на трэці дзень Ён уваскрос. Госпадава ўваскрасеньне, дарагія мае, заручае нам, што й мы ўваскрэсьнем зь мёртвых. Няхай сабе нашае цела вяне, і паводля закону свайго, будзе пакладзенае ў магілу, — але не назаўсёды. Яно падобнае да зярняці, якое сеецца патое, каб ізноў, як цела Хрыстовае, уваскрэснуць да жыцьця. Сьвяты апостал Павал кажа: „Сеецца на тленьне, устае непсавальнае; сеецца цела душэўнае, устае сеецца ў кволасьці, устае ў магутнасьці; сеецца цела душэўнае, устае цела духоўнае" (1 Кар. 15:42-44).

Калі Госпад наш Ісус Хрыстос быў укрыжаваны, Ён злажыў ахвяру за грахі Сваіх людзей, але калі ўваскрос, дык Ягонае новае жыцьцё сталася вольнае ад кары й свабоднае ад павіннасьцяў. Цяпер і мы выкупленыя крывёй Госпада ад грэху нашага. Мы чыстыя. Сын Божы дабраахвотна аддаў Сябе на сьмерць за нашы грахі, але Ён уваскрос ізноў для нашага апраўданьня. Наш Госпад Сваім заступніцтвам вызваліў людзей Сваіх.

Сьвяты апостал Павал кажа: „Ведаючы, што Хрыстос, уваскросшы з мёртвых, больш не памірае; сьмерць ня мае над Ім улады" (Рым. 6:9). Гэтак ёсьць і з веруючымі. Калі хто памёр з Хрыстом, дык і ўваскрэсьне з Хрыстом, тады сьмерць ужо больш ня мае ўлады над ім, Ён ніколі не загіне, ані будзе вырваны з рук Госпадавых, бо Хрыстос сказаў: „Вада, што Я дам яму, станецца у ім жаралом вады, якая цячэ ў жыцьцё вечнае" (Ян 4:14).

Памятайце, дарагія мае, заўсёды пра Госпада й Збаўцу нашага Ісуса Хрыста й будзеце бачыць, як памяншаюцца сучасныя нашыя мукі ў параўнаньні да мукаў Госпадавых і вы перамажаце мукі свае так, як Госпад іх перамог. Сьвяты апостал Павал кажа: „Цярпі мукі, як добры жаўнер Ісуса Хрыста" (2 Цім. 2:3), і далей кажа: „Слова вернае, бо калі мы памерлі разам з Ім, дык і будзем таксама жыць разам; калі церпім, будзем таксама валадарыць разам" (2 Цім. 2:11-12).

Дарагія Браты й Сёстры, пойдзем-жа сьледам за сваім Госпадам і ніколі ня будзем баяцца. Увесь час бачма Яго наперадзе і перамога будзе наша. Майма веру ў Уваскрослага Ісуса Хрыста, і жывем сілаю Ягонага ўваскрасеньня. Адначасна будзем дзякаваць Госпаду Хрысту за Ягоныя вялікія дабрадзействы ды будзем праслаўляць Ягонае ўваскрасеньне і Ён пашле нам перамогу над пакутамі нашымі. Амін.

Таронта, Канада

Вялікдзень, Году Божага 1985

**З ласкі Божае пакорны МІКАЛАЙ,**
**Першы Гіерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

## РЭСТАЎРАЦЫЯ СТАТУІ СВАБОДЫ




**Паважаныя Суродзічы!**

Як Вам напэўна ўжо ведама, рэстаўрацыя Статуі Свабоды — сымбаля Амэрыканскае Дзяржавы й Свабоды Чалавека — у поўным ходзе. Вам таксама, пэўна, ведама, што праект аднаўленьня Статуі Свабоды адбываецца вылучна на грамадзкія сродкі. Удзельнічаюць у гэтым праекце сотні арганізацыяў, установаў, карпарацыяў ды мільёны прыватных асобаў, бо-ж каля 14-х мільёнаў дзядоў і бацькоў сяньняшніх Амэрыканцаў прыяжджалі якраз у порт, дзе ўзвышаецца Статуя Свабоды, у порт Нью Ёрк. Сярод гэтае масы імігрантаў было каля мільёну Беларусаў. Бясспрэчна, што ў памяць гэных беларускіх імігрантаў мы забавязаныя ўзяць удзел у праекце рэстаўрацыі Статуі Свабоды, каб гэтым прыгадаць аб беларускім удзеле ў разбудове Амэрыкі.

Камітэт Адбудовы Статуі Свабоды зьвярнуўся да Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня з запросінамі ўлучыцца ў справу рэстаўрацыі Статуі Свабоды. Зразумела, што Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне згадзілася ўдзельнічаць у гэтай важнай справе, разьлічваючы, бязумоўна, на падтрыманьне з боку нашага грамадзтва. Дарэчы, тут трэба прыгадаць, што ў канцы 1950-х і на пачатку 1960-х гадоў нашае Задзіночаньне ўзяло актыўны ўдзел ў пабудове Музэю Эміграцыі каля падножжа Статуі Свабоды, дзякуючы чаму назоў „БЕЛАРУСЬ" упрыгожвае сяньня гранітную арнамэнтацыю Музэю ды напамінае дзесяткам мільёнаў наведвальнікаў аб беларускіх імігрантах і беларускай спадчыне ў Амэрыцы. Гэтаксама й цяпер наш удзел у рэстаўрацыі Статуі Свабоды — гэта наш абавязак прадэманстраваць актыўнасьць Беларусаў у жыцьці Амэрыкі.

Неўзабаве Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне разашле спэцыяльныя лісты-адозвы да сваіх сяброў, прыхільнікаў, прыяцеляў ды знаёмых, у якіх мы будзем прасіць пасільнай грашовай ахвяры на мэту рэстаўрацыі Статуі Свабоды. Важна тут зазначыць, што кажны ахвярадавец будзе ўпісаны ў адмысловую кнігу ахвярадаўцаў на Статую Свабоды, а дзейнасьць арганізацыі нашае будзе адзначаная, як дзейнасьць беларускае нацыянальнае групы ў Амэрыцы.

**Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

## СЛОЎНІКІ ВЫДАДЗЕНЫЯ Й НЯВЫДАДЗЕНЫЯ

Лексыкаграфічная й слоўнікавая праца беларускіх навукоўцаў за апошнія 10-15 гадоў надзвычайна плённая й выкананая на высокім прафэсійным узроўні. Дзясяткі выдрукаваных спэцыяльных, двумоўных і аўтарскіх слоўнікаў становяць значны ўклад у беларускае мовазнаўства. Некаторыя слоўнікі, як прыкладам геаграфічныя Я. Рапановіча, ці слоўнік мовы Ф. Скарыны, ці распачатыя гістарычны слоўнік беларускае мовы, замацоўваюць ды ўзбагачаюць беларускую тэрміналёгію й гістарычную спадчыну беларускае мовы.

Посьпехі беларускіх мовазнаўцаў знайшлі годны дадатны водгук ня толькі ў савецкім друку, але і ў друку за мяжой. Гэтак, у англамоўным часапісе „Журнал Вывучэньня Беларусі", які выходзіць у Лёндане й выдаецца Англа-Беларускім Таварыствам, ангельскі славіст Пітэр Майо, робячы ў 1977 г. агульны аналіз беларускага слоўніцтва, выказаўся гэтак: надта доўга слоўнікавая праца БССР была папялушкай беларускага мовазнаўства. І запраўды, блізу чвэрць стагодзьдзя, ад пачатку 1930-х гадоў і аж па 1953 год, у савецкай Беларусі ня было выдрукавана ніводнага новага слоўніка. Нарэшце ад пачатку 60-х гадоў карціна рэзка мяняецца ў дадатным кірунку.

Амэрыканскі лінгвіст, былы дырэктар Славянскага Аддзелу Нью-Ёркаўскае Публічнае Бібліятэкі др. Джон Міш, з нагоды выстаўкі ў Нью-Ёркаўскай Публічнай Бібліятэцы, прысьвечанай стагодзьдзю ад нараджэньня Янкі Купала й Якуба Коласа, сказаў так: „Тэмпы разьвіцьця беларускага мовазнаўства й багацьце слоўнікавага матар'ялу яшчэ раз даводзяць, колькі ёсьць патэнцыялу й нязробленае працы ў самым цэнтры славянскага сьвету; беларускія мовазнаўцы даюць — і, я веру, дадуць больш у будучыні — сапраўдныя шэдэўры слоўнікавае працы.

Ангельскі мовавед і літаратар, знаўца беларускае літаратуры, праф. Арнольд МакМільлін, які ад сярэдзіны 1960-х гадоў рэцэнзуе беларускія слоўнікі ў розных англамоўных часапісах, сказаў гэтак: „Нарэшце беларускае мовазнаўства паказваецца ў аспэктах, якія ня толькі зацікаўляюць акадэмічныя колы, але й адзначаецца прыгажосьцяй і багацьцем". Пра паэтычны слоўнік Вячаслава Рагойшы 1979 году праф. МакМільлін сказаў: „слоўнік дае поўны абраз высокага дасягненьня й багацьця беларускае паэзіі ды становіць надзвычайны крок у вывучэньні беларускае паэтыкі.

Будзе тут на месцы адзначыць таксама, што й на захадзе па Другой Сусьветнай Вайне вялася беларуская лексыкаграфічная праца. Былі выдрукаваныя такія слоўнікі: „Некаторыя праўніцкія тэрміны. Слоўнік юрыдычных беларускіх тэрмінаў", „Маленькі беларуска-расейскі размоўнік", „Краёвы слоўнік Лагойшчыны", „Слоўнік беларускае літаратурнае мовы 19-га стагодзьдзя", „Слоўнік нямецкіх запазычаньняў у беларускай мове", першы том „Беларуска-Грэцкага слоўніка".

Часта з крытычных аглядаў выдрукаваных слоўнікаў паўстаюць новыя праекты, пляны, выказваюцца думкі. Гэтак, летась у дзясятым нумары часапісу „Беларусь" нехта У. Сарока, старшы супрацоўнік Інстытуту Гісторыі Партыі пры ЦК КПБ, разглядаючы геаграфічныя слоўнікі Ягена Рапановіча, выказаў пажаданьне, каб быў укладзены слоўнік назваў зьніклых паселішчаў Беларусі. Думка запраўды добрая. Гэткаму слоўніку зьявіцца прыйшла пара. У такі слоўнік неабходна было-б улучыць ня толькі назовы зьніклых мясцовасьцяў, але таксама й назовы мясцовасьцяў, афіцыйнае вымаўленьне якіх разьніцца ад традыцыйнага. Гэтак, трэба было-б зазначыць, што Навагрудак — гэта таксама Навагрудак Міоры — гэта Мёры, Мінск — гэта Менск, Вільнюс — гэта Вільня, Радашковічы — Радашкавічы й г. д.

Падобныя насьпелыя пажаданьні, а іх ёсьць ці мала, варта выказваць далей. Гэтак, прыкладам, ня гледзячы на посьпехі беларускага слоўніцтва, Беларуская ССР займае апошняе месца сярод саюзных рэспублікаў у выданьні слоўнікаў беларуска-замежных і замежна-беларускіх: нямецка-беларускага, француска-беларускага, ангельска-беларускага ды іншых. У рэспубліцы гэткіх слоўнікаў няма, Беларусы, вывучаючы заходня-эўрапейскія мовы, змушаныя вывучаць гэтыя мовы праз пасярэдніцтва мовы расейскае.

Трэба тут выказаць і гэткую спасьцярогу: сховішчы Акадэміі Навукаў СССР ды іншых расейскіх навуковых установаў хаваюць дзясяткі рукапісаў беларускіх слоўнікаў. Вось, прыкладам, некаторыя з гэтых рукапісаў: „Словарь белорусского наречия", укладзены ведамым беларускім дасьледнікам Іванам Грыгаровічам, ды колькі іншых слоўнікаў, якія былі ўкладзеныя напачатку 19-га стагодзьдзя; ляжыць у Ленінградзе і рукапіс слоўніка „Опыт словаря белорусского наречия" Еўдакіма Раманава, укладзенага ім у 1876 годзе; у сховах Расейскага Імпэратарскага Геаграфічнага Таварыства, г. зн. у цяперашніх архівах АН СССР, захаваныя колькі рукапісаў Аляксандра Сержпутоўскага. Ніколі ня быў выдрукаваны слоўнік Івана Насовіча беларускае мовы Смаленшчыны. У архівах Ленінграду перахоўваюцца таксама рукапісы слоўнікаў беларускага этнографа Паўла Шпілеўскага, дыялектны слоўнік Бялінскага, геаграфічныя слоўнікі гораду Рослаўя (укладаль. Арбузаў), слоўнік мовы Ф. Скарыны-Уладзімірава, дыялектны слоўнік Аршаншчыны (праца групы этнографаў з былога філіялу Расейскага Геаграфічнага Таварыства), рукапісы „Беларускага слоўніка" С. Мядзьведзкага, А. Ярушэвіча і моваведа Янчукова. У сховах Масквы ляжыць слоўнік Пятра Гармаша мовы Старадубшчыны. У віленскіх архівах перахоўваюцца рукапісы „Слоўніка Беларускай Этнаграфічнай Энцыкляпэдыі", укладзеныя беларускім мастаком і моваведам Язэпам Драздовічам у пэрыядзе ад 1910 до 1915 гадоў. Тамжа ў Вільні знаходзіцца й рукапіс шматтамовага беларуска-польскага слоўніка Язэпа Ціхінскага ды пакрываецца пылам рукапіс „Слоўніка гістарычнае беларускае мовы" Ф. Дабранскага.

Бясспрэчна, што беларускае мовазнаўства значна ўзбагацілася'б, калі-б гэтыя скарбы беларускае лінгвістыкі былі выдрукаваныя.

**В. Кіпель**

## ПРА ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

**(Заўвагі да інтэрвію зь Іванам Шамякінам)**

У газэце „Зьвязда" за 25 лютага сёлета было зьмешчанае інтэрвію карэспандэнта гэтае газэты зь пісьменьнікам Іванам Шамякінам, галоўным рэдактарам выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя", пра дзейнасьць выдавецтва. Шамякін аўтарытэтна расказаў аб тым, што было зроблена ды што зрабіць выдавецтвам „Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя" ў бліжэйшай будучыні. Аднак, пры ўсёй аўтарытэтнасьці Шамякіна даводзіцца ў ягоную гутарку-інтэрвію ўнесьці колькі вельмі важных дапаўненьняў, а таксама выказаць некаторыя заўвагі й пажаданьні, хоць можа яны да Шамякіна й ня дойдуць.

Перш-наперш вельмі важная заўвага: біяграфія „Беларускае Савецкае Энцыклапэдыі" пачынаецца ня ў 1967 г., як заявіў Іван Шамякін, а куды раней, бо ўжо ў 1918 г. шырокаведамы беларускі дзеяч і навуковец ды пазьнейшы сакратар Беларускай Акадэміі Навукаў у Менску, Вацлаў Ластоўскі, выказаўся аб пільнай патрэбе ўкладаньня беларускага нацыянальнага слоўніка-энцыкляпэдыі. У гадох дваццатых-трыццатых, у пару дзейнасьці Інстытуту Беларускай Культуры, а пасьля Беларускай Акадэміі Навукаў, ідэя беларускае энцыкляпэдыі пачала рэалізавацца: была створаная картатэка ды выдрукаваны больш як дзесяток тэматычных слоўнікаў-асноваў энцыкляпэдыі. Пад агульным загалоўкам: „Беларуская Акадэмія Навук — Рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі" выйшлі праекты слоўнікаў: „Філязофія", „Савецкае будаўніцтва", „Сусьветная літаратура", „Мовазнаўства" і іншыя. Усе гэтыя слоўнікі былі выдрукаваныя й было ўкладзена каля 100.000 картак энцыкляпэдыі. Некаторыя часткі энцыкляпэдыі былі здадзеныя ў друк. Але ў ганай пары, на пачатку 1930-х гадоў, пачаўся пагром беларускае нацыянальнае інтэлігенцыі, г. зв. нацыянал-дэмакратаў, праца над энцыкляпэдыяй спынілася. Частка картатэкі партыйнай цэнзурай была зьнішчаная, аднак частка засталася й была скарыстаная, як і самы прынцып укладаньня энцыклапэдыі, пры працы над энцыклапэдыяй, якая пачалася ў 1967 г. й аб якой кажа Шамякін.

Аб гэтым, аўтар гэтых камэнтароў даведаўся ад Пятра Глебкі, калі Глебка быў у Нью Ёрку.

Дык да зараджэньня ідэі выданьня Беларускае Энцыкляпэдыі й пачаткаў рэалізаваньня гэтае ідэі гэтак званая ленінская нацыянальная палітыка, як кажа Шамякін, ня мае ніякага дачыненьня, больш таго, якраз гэтая палітыка затрымала рэалізаваньне Беларускае Энцыкляпэдыі на даўгія гады.

Цяпер колькі іншых заўвагаў да таго, што сказаў Іван Шамякін карэспандэнту „Зьвязды". Натуральна, што Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя ў 12-х тамох зрабіла агульна дадатнае ўражаньне за межамі Беларусі паколькі гэта першае такога роду выданьне ў БССР. Было на энцыкляпэдыю ці мала дадатных рэцэнзіяў, праўда, зь некаторымі крытычнымі заўвагамі. Да іх мы тут дадамо яшчэ адну — вельмі нізкі тыраж БелСЭ. Іван Шамякін кажа, што некаторыя выданьні выдавецтва „БелСЭ" сталіся сёньня бібліяграфічнай рэдкасьцяй. Праўдападобна й сама энцыкляпэдыя сёньня ўжо рэдкасьць, бо-ж тыраж ейны — усяго толькі 25 тысячаў экзэмпляраў, а зь іх добрых пару тысячаў былі высланыя за межы СССР, дык бадай ці стала гэтага выданьня ўсім бібліятэкам Беларусі. Падобная-ж літоўская энцыкляпэдыя выйшла тыражом аж 75 тысячаў; значыцца, БССР на душу жухарства энцыкляпэдычным тыражом стаіць ладна ззаду. Трэба таксама нагадаць рэдактару выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя", што паказьнік да Бел СЭ адразу-ж, як каужць, на карані стаўся бібліягрэфічнай рэдкасьцяй, бо быў выдадзены тыражом усяго пяць тясычаў экзэмпляраў. Ці-ж гэта ня шкодніцтва — выдаць энцыкляпэдыю тыражом 25 тысячаў экзэмпляраў, а паказьнік да яе ўсяго тяражом пяць тысячаў?!

Іван Шамякін сказаў у інтэрвію, што факсымільнае перавыданьне слоўніка Насовіча 1870 году „імгненна" разыйшлося. Гэта можа сьветчыць, што праблемы са збытам перадрукаў беларускіх культурных помнікаў ніколі ня будзе. Можна было-б, такім парадкам, перадрукаваць і Біблію Скарыны, і слоўнік Зізанія (у Кіеве гэты слоўнік перадрукавалі) і іншыя рэдкія беларускія кнігі: на іх таксама пакупнікі знайшліся-б „імгненна", Беларусы сваю культурную спадчыну любяць і шануюць.

Ёсьць у інтэрвію зь Іванам Шамякінам некаторыя мамэнты не дагаворанья да канца. Прыкладам, энцыкляпэдычны даведнік „Мінск" ніколі ня быў выдрукаваны пабеларуску, а толькі парасейску. Гэтксама галоўны рэдактар выдавецтва „Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя" ня кажа, што пяцітомавая энцыкляпэдыя „Беларуская ССР" выйшла пабеларуску ўсяго 15-тысячным тыражом, а парасейску 50-тысячным.

Што да запланаваных энцыкляпэдычных даведнікаў пра Скарыну й Купалу, аб якіх згадаў Іван Шамякін у сваім інтэрвію газэце „Зьвязда", дык менскім навукоўцам варта было-б нарэшце азнаёміцца з тым, што ў скарынаведзе й купалаведзе робіцца на Захадзе ды ўлічваць гэтую зробленую працу. Гэта робіцца і ў Маскве, і ў Кіеве, і ў Вільні — працы заходніх дасьледнікаў там аналізуюцца й мясцовыя навукоўцы аб гэтым гавараць не баяцца.

І на канчатак выкажам яшчэ адно пажаданьне: бязьмежна ўзбагаціла-б беларускую культуру й навуку выданьне **беларускае гістарычнае энцыкляпэдыі**, якая выправіла-б бязглуздыя цьверджаньні ў шмат якіх савецкіх публікацыях аб тым, што беларускі народ у Вялікім Княстве Літоўскім быў паняволены літоўскімі фэўдаламі. Нажаль, аб беларускай гістарычнай энцыкляпэдыі Іван Шамякін нічога не сказаў, яе відавочна ня толькі няма ў плянах, але аб гэткай энцыкляпэдыі відаць, і выказацца непажадана.

**В. Зубкоўскі**

### НА КНІЖНАЙ ВЫСТАЎЦЫ

На выстаўцы лепшых тэхнічных і навуковых савецкіх выданьняў, якая адбывалася ў Штатавым Унівэрсытэце Нью Ёрку ў гор. Нью Ёрку ад 29 сакавіка да 26 красавіка сёлета, былі выстаўленыя дзьве беларускія кніжкі: „Энцыклапэдыя Прыроды Беларусі" (Менск, 1983) і „У краі блакітных азёр" (Менск).

## ПРА ВЕРШЫ ПУШКІНА Й КУПАЛЫ

Літаратурны аглядальнік менскае „Настаўніцкае газэты" Данілевіч у гэтай газэце ад 23-га сакавіка сёлета зьмясьціў агляд вершаў, прысыланых у „Настаўніцкую газэту" ейнымі чытачамі, найбольш беларускімі настаўнікамі. Вершаў прысылаюць шмат. Нажаль, як піша аглядальнік, добрых сярод іх вельмі мала. Між іншага, Данілевіч адзначае адну дадатную зьяву: „Апошнім часам, — кажа ён, — твораў маладых павялічылася ў рэдакцыйнай пошце, паявіліся новыя імёны". Ну, але што-ж з гэтага, калі бальшыня прысыланага — суцэльная слабізна. І Данілевіч дакарае гэткіх вершаплётаў: „Ня радка вершы пішуцца 'проста так', зь любой нагоды. Тут ня шкодзіла-б успомніць, што ў вершах Пушкіна няма ніводнага радка, напісанага 'проста так'".

Уражае тут перш-наперш спасылка аж на Пушкіна. Чаму на Пушкіна? Чаму не на Купалу? Данілевіч-жа робіць агляд беларускіх вершаў для беларускіх настаўнікаў і чытачоў „Настаўніцкае газэты"! Можа гэта ў Данілевіча гэткая вернападданьніцкая псыхалёгія, што на прыклад дадатнага трэба абавязкава зьбегаць да „старшага брата". Вельмі магчыма, што ў Данілевіча ёсьць такі камплекс, бо ў беларускім савецкім друку часта бывае, што спачатку згадваецца расейскае, а пасьля толькі сваё. Але, падумаўшы, пра Янку Купалу Данілевіч і ня мог-бы сказаць таго, што сказаў пра Пушкіна — што вось у вершах Купалы „няма ніводнага радка, напісанага 'проста так'". Не, пра Купалу гэтага ня скажаш. І ня скажаш таму, што ў адрознасьць ад Пушкіна, які жыў за манархістычным дэспатам, царом Мікалаем І-ым, Янка Купала жыў за таталітарным дыктатарам Сталінам. Пушкіна каралі за ягоныя вершы, але Пушкіну была пакінутая магчымасьць пісаць, як паэт гэтага хацеў. Купала-ж сам сябе хацеў пакараць самагубнаю сьмерцяй у 1930-м годзе, калі ад паэта была забраная магчымасьць пісаць тое, што яму дыктатавала сумленьне. Вось чаму дасюль няма поўнага збору Купалавых твораў (хоць у Менску існуе Літаратурны Інстытут імя Купалы), так, як ёсьць поўны збор твораў Пушкіна. Вось чаму ў апошнім выданьні купалаўскае літаратурнае спадчыны 1970-х гадоў у чацьвертым томе, у якім зьмешчаныя вершы 1918-1942 гадоў, у камэнтарах зазначана: „У некаторых вершах, пачынаючы з 1934 г., зроблены купюры".

Гэта адна з дэталяў, якая характарызуе гэтак званы мэтад сацыялістычнага рэалізму. Гэтым „мэтадам" у ладнай меры тлумачыцца і ўся тая „шэрая плынь" у сучаснай беларускай літаратуры, нараканьнем на якую няма канца.

Пры гэтай нагодзе хочацца зьвярнуць ўвагу чытача на верш маладога 50-гадовага юбіляра Рыгора Барадуліна пад заг. „Як пішуцца вершы", зьмешчаны ў сёлетнім студзенскім нумары часапісу „Маладосьць". Спачатку, кажа паэт, вершы пішуцца вачыма, „па прынцыпу: што бачу — ўсё пішу". Пасьля вершы пачынае пісаць „відушчая душа". Але душа, кажа Барадулін,

. . . патрабавальнаю сльве,
Ды ўрэшце давярае галаве.
З гадамі сена здасца муравою
І пачынаюць болей галавою
Пісацца дужа правільныя вершы,
І адпаведна ўжо настрой, як шэршань,
Гудзе, і думку адбівае лой,
І вершы пішуць антыгалавой.

Бязумоўна, гэта ня значыць, што, робячы агляд вершаў, прысланых у „Настаўніцкую газэту", — чым-бы тыя вершы ні пісаліся, галавою ці антыгалавою, — абавязкава трэба спасылацца на Пушкіна або там на Шылера ці Шэкспіра. Карысьней у гэтым выпадку было-б абмежыцца да прыкладаў із сваё роднае літаратуры. Патаго, што характар і маштаб Данілевічавага агляду не такі ўжо й шырокі. Бяда толькі, што ў сучаснай беларускай савецкай літаратуры ня толькі шмат якія вершы пішуцца антыгалавой, але й шмат якія літаратурныя агляды.

**Арсень Загорны**

## КАНЦЭРТ ДЗІМІТРЫЯ БЫЧКОЎСКАГА



Дзімітры Бычкоўскі

19-га траўня 1985 г. у мадэрнай аўдыторыі каледжу імя Вільяма Патэрсана ў гор. Вэйне, штат Нью Джэрзы, сабралася каля 200 чалавек Беларусаў, Амэрыканцаў, Украінцаў і Палякаў, жыхароў пераважна штату Нью Джэрзі, а нават і з Канэктыкуту. Было шмат моладзі. Для запрошаных і тых, хто прыйшоў, прачытаўшы абвесткі ў газэтах, уступ у аўдыторыю быў свабодны. Але ня для Дзьмітрыя Бычкоўскага. Яму, каб мець права выступіць у гэтай аўтдыторыі, трэба было заваяваць гэты гонар у спаборніцтве з трынаццацьма канкурэнтамі, выконваючы на піяніне адпаведныя творы кампазытараў. І Дзьмітры заваяваў, перамогшы нешчасьлівы лік трынаццаць. Гэта была ня першая перамога. У 1984 годзе ў Карнэгі Гол, у Нью Ёрку, на конкурсе маладых артыстаў, Дзіміры акампаніяваў сапрана Карэн Борн, і яны занялі першае месца.

Да каледжа Дзьмітры закончыў Мангатэнскую школу музыкі, у якой ягонай настаўніцай была прафэсар славутае Джульярдзкае музычнае школы Елена Валкоская. У каледжы Вільяма Патэрсана Дзімітрыя вучыў сусьветна-ведамы піяніст, прафэсар Гары Кэркпатрык.

На Канцэрце студэнт Бычкоўскі заваёўваў свой дыплём, выконваючы наступныя творы: санату опус 13 Бэтховэна, скэрца №. 1 у Б-міноры, оп. 20 Шопэна, прэлюдыю Дэбюсы ды Канцэрт № 2 у Ц-міноры, оп. 18 Рахманінава.

На выпускных экзаменах, як ведама, студэнты мусяць іграць заданыя творы з памяці, але ўсё-ж я зьдзівіўся, калі Дзіміры выконваў такія складаныя рэчы бяз нотаў.

Канцэрт Дзімітрыя Бычкоўскага — радасная падзея ня толькі для бацькоў, Зосі і Ўладзімера, ведамага акардыяніста, якія не пашкадавалі мазалём запрацаваных даляраў, каб не змарнаваўся Божы дар у сына. Гэта была радасная падзея, думаю, для ўсіх Беларусаў, прысутных на канцэрце бо-ж першы раз у эміграцыйным жыцьці пачулі дзіўныя акорды, якія выляталі з пад пальцаў беларускага юнака. Мы не шкадавалі далоняў, каб сваімі воплескамі сказаць маладому піяністу „шчыры дзякуй!". Асабліва доўга не змаўкалі бурныя воплескі пасьля сканчэньня „Канцэрту № 2 Рахманінава, у выкананьні якога Дзімітрыю асыставаў ягонага настаўнік праф. Гары Кэркпатрык. Выйшаўшы на „біс", усхваляваны Дзімітры паклаў на піяніна падораныя яму чырвоныя ружы ды ўдала выканаў Вальс № 2 Шапэна.

Праз пару гадзінаў у Беларускім Цэнтры ў Саўт Рывэры адбыўся пачастунак. Гучэла ціхая музыка „рэкордэра", сьпявалі „многая лета", падымалі чаркі за „нашага Лібарачы"... Гэтыя словы я чуў яшчэ ў аўдыторыюме пасьля канцэрту. Гэта, вядома, камплімэнт, але ня зусім удалы, бо-ж Ліберачы — піяніст лёгкага жанру, хоць тэхнічна майстра не апошняе клясы. Так ці інакш, але камплімэнты, бачна, ня ўскружылі галаву таленавітаму юнаку, бо-ж думае працягваць навуку далей, калі не чатыры, дык два гады. На шляху да славы вялікага піяніста ў Дзімітрыя Бычкоўскага будзе шмат таленавітых канкурэнтаў ды іншых аб'ектыўных перашкодаў, але, думаю, ён іх пераможа, як перамагаў да гэтага часу. Шчасьці яму, Божа!

**М. Кавыль**

# КАНФЭРЭНЦЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ РЭСПУБЛІКАНСКІХ ГРУПАЎ АМЭРЫКІ

Канфэрэнцыя адбылася ў Вашынгтоне 16-19-га травеня сёлета. Як звычай, канфэрэнцыі гэтыя адбываюцца ў розных гарадох Амэрыкі, аднак сёлета было пастаноўлена правесьці канфэрэнцыю ў сталіцы, паколькі Прэзыдэнт Рэйган згадзіўся быць гасьцём на канфэрэнцыі. Упяршыню ў гісторыі Фэдэрацыі Нацыянальных Рэспубліканскіх Групаў Амэрыкі (ФНРГА) дзейны прэзыдэнт быў гасьцём і выступіў перад удзельнікамі канфэрэнцыі.

Як і мінулымі гадамі, Фэдэрацыя Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў узяла актыўны удзел як у рыхтаваньні, гэтак і ў працах канфэрэнцыі. На прапанову беларускае групы, былі зьмененыя некаторыя пункты статуту ФНРГА. Беларускія дэлегаты інж. Васіль Мельяновіч, сп. Янка Раковіч і сп-ня Долёрэс Мельяновіч таксама ўдзельнічалі ў арганізацыйным, палітычным ды вэтэранскім камітэтах канфэрэнцыі.

Канфэрэнцыя была вельмі пасьпяховай: на абедзе з Прэзыдэнтам Рэйганам было больш за 600 дэлегатаў, якія прадстаўлялі панад 40 нацыянальнасьцяў і каля 30 арганізацыяў.

Абед з Прэзыдэнтам Рэйганам пакінуў незабыўнае ўражаньне: прамова Прэзыдэнта была перапыняная апладысмэнтамі дзесяткі разоў, а калі Рэйган сказаў, што ў часе ягонае прэзыдэнцтва „Злучаныя Штаты будуць наперадзе справы падтрыманьня міру й свабоды", дык аўдыторыя прывітала яго даўгой бурнай авацыяй.

Упяршыню ў гісторыі Фэдэрацыі Нацыянальных Рэспубліканскіх Групаў прадстаўнік беларускіх рэспубліканскіх клюбаў сп. Васіль Мельяновіч быў выбраны ў склад выканальных органаў ФНРГА, стаўся сябрам рэвізыйнае камісіі. Дарэчы, Васілю Мельяновічу была выказаная на ўрачыстым абедзе спэцыяльная падзяка кангрэсмэнкай сп-няй Гэлэн Бэнтлі за выдатнае старшынства над этнічнымі выбаршчыкамі ў часе леташняе выбарчае кампаніі ў горадзе Балтыморы. Перамога сп-ні Гэлэн Бэнтлі была асабліва важная для Рэспубліканскае партыі, бо гэта была перамога над кангрэсмэнам Лёнгам, вялікім лібэралам і праціўнікам Прэзыдэнта Рэйгана.

**М. В.**

# ЯК НІШЧЫЛІ НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СКАРБЫ

Летась у № 10 выдаванага ў Менску часапісу „Маладосьць" зьявіўся артыкул Генадзя Каханоўскага „Вандраваньні", у якім аўтар апісвае, як выбраўся ён шукаць архіўных матар'ялаў пра Аляксандра Рыпінскага пасьля таго, калі яму даручылі напісаць артыкул пра ягоную „фальклярыстычную дзейнасьць". Каханоўскі едзе ў Віцебск і, не знайшоўшы там сьлядоў дзейнасьці Рыпінскага, наткнуўся ў Віцебскім краязнаўчым музэі на ладную колькасьць матар'ялаў пра ведамага вучонага Аляксея Сапунова (1851-1924). Сапуноў, як кажа аўтар, надта дбайліва й на працягу даўгіх гадоў зьбіраў матар'ялы зь беларускай старажытнасьці, вывучаў фальклёр, пісаў навуковыя працы. І тут Каханоўскі падае нямала цікавых фактаў і пра вучонага, і пра тое, што ён рабіў ды як на сваю працу глядзеў.

„Аляксей Сапуноў, — піша Каханоўскі, — жыў усё жыцьцё няўтольнай прагай пошукаў і дасьледваньняў. Шукаў ён помнікі палеаграфіі, рэчавыя помнікі гісторыі, сьляды старых бібліятэк, сьляды дзейнасьці даўніх дойлідаў і аб'екты археалёгіі. Прывёў прыклад сьвядомага зьнішчэньня неацэннай бібліятэкі ў Полацаку. Абапіраючыся на сачыненьне спадзьвіжніка Стафана Баторыя Рэйнальда Гейдэнштэйна, ён пісаў, што гтэая бібліятэка, ‚мела ў вачох вучоных такую каштоўнасьць, як ніякая іншая здабыча. У ёй аказалася, акрамя летапісаў, шмат сачыненьняў вучоных бацькоў грэцкай царквы. — усе на славянскай мове' ". Бібліятэка пазьней загінула. Дасьледчык выказаў здагадку, што гэтае кнігасховішча спапялела ад рук езуітаў. Загінулі і раньнія полацкія летапісы".

Але нішчылі нашы гістарычныя каштоўнасьці ня толькі езуіты. Генадзь Каханоўскі перадае адну „сумную аповесьць", якую пакінуў нашчадкам Аляксей Сапуноў. „Калі я быў яшчэ гімназістам малодшых клясаў Віцебскай гімназіі, — расказаў Сапуноў, — архіў кансысторыі зьмяшчаўся ў адным з пакояў ніжняга калідора архірэйскага дому. Пакой быў без замка, і мы, разам з малалетнімі архірэйскімі пеўчукамі, беззабаронна пранікалі ў гэты пакой і з кучы зьвязак выбіралі тое, што нам падабалася, а падабалася прыгожая папера сіняватага колеру: цудоўныя зьмеі можна было змайстраваць з гэтай паперы. Дадам, што папера зь пячаткамі цанілася намі вышэй, мы таксама займаліся свайго роду сфрагістыкай (ведай пячатак). І колькі мы згубілі (чытай: зьнішчылі — К. А.) гэтай паперы! Старэйшыя, што бачылі наша паляваньне за паперай, не зьвярталі на гэта найменшай увагі". „І далей Аляксей Парфенавіч (Сапуноў) прадаўжае, — піша Каханоўскі, — што ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў XIX стагодзьдзя, частка нашага губэрнскага архіву, прытым найбольш старажытная, найбольш цікавая, — менавіта за час існаваньня губэрні Полацкай і двух дзесяцігодзьдзяў Віцебскай губэрні, — прадазена на пуды. Толькі нязначная частка яго, каля 200 спраў, была захавана' ".

І чым далей, тым жудасьней: „Аднойчы епіскап Полацкі расказваў А. Сапунову, як у 1850-х гадох зьбіралі зьвесткі пра манастырскія архівы. У адной такой ‚обители' жыў ігумен, які ледзьве разьбіраўся навет у друкаваных кнігах, а куды яму было там да рукапісных. А ў манастыры, як на грэх, быў агромністы куфар, біткам набіты старажытнымі дакумэнтамі. Атрымаў гэты ігумен указ Сыноду і засумаваў, ды так, што навет захварэў, адчуў, ня гледзячы на летні час, моцныя дрыжкі. Нарэшце зьлёг і доўга ня выходзіў зь кельлі. Брацьця бачыла, што з коміну настаяцеля ідзе дымок і заключыла, што ў яго моцная ліхаманка. Тыдні два праляжаў ігумен у сваёй кельлі, а калі выйшаў, то са спакойным сумленьнем данёс сьвятому Сыноду, што ў манастыры, якім ён загадвае, ніякіх старажытных актаў і дакумэнтаў няма; і гэта была праўда: ён іх усе спаліў".

„Амаль такое-ж адбылося і ў Маркаўскім манастыры ў Віцебску, — піша далей Г. Каханоўскі, — дзе яшчэ ў 60-х гадох XIX ст. захавалася мноства каштоўных грамат. Помнікі культуры гарэлі разам з гарадамі. А. Сапуноў прывёў выпіску зь ‚Летапісу г. Віцебска' ад 28 верасьня 1708 г., калі на загад Пятра I, за сувязь віцяблян зь непажаданым цару С. Ляшчынскім, было загадана спаліць Віцебск, у выніку чаго згарэлі горад, замкі, ратуша, Узгор'е, Заручэўе, Задунаўе . . ."

„Агульнавядома і тое, — чытаем далей у часапісе „Маладосьць", — што ў Полацкі Еўфрасіньнеўскі храм недзе 70-80-х гадох XIX ст. зьявіўся нейкі ‚акуратыст' і замаляваў фрэскі на заходняй сьцяне, якія яшчэ бачыў Сапуноў. Вучоны зьдзіўляўся майстэрству невядомага мастака XII ст. і перажываў іх страту".

А зладзеі дабраліся і ў грабніцы: „У нататках А. Сапунова ёсьць і такі факт, як скарга літоўскага вучонага Басановіча пракурору на ксяндза Курчэўскага і доктара У. Загорскага, ускрыўшых тры грабніцы, сярод іх і грабніцу князя Вітаўта. Адтуль былі ўкрадзеныя карона і іншыя каштоўныя рэчы".

Чытаючы такое, запраўды чалавека дрыжкі бяруць.

**К. Акула**

## БЕЛАРУСКІ ЎДЗЕЛ У АНТЫБАЛЬШАВІЦКІМ ФОРУМЕ

У Нью Ёрку 18-га й 19-га травеня адбываўся Зьезд Амэрыканскіх Прыхільнікаў Антыбальшавіцкага Блёку Народаў, які, дарэчы, адзначае сёлета 35-я ўгодкі свайго існаваньня.

У працы Зьезду ўзялі ўдзел 243 дэлегаты ад 18-х паняволеных народаў, прадстаўнікі арганізацыяў Антыбальшавіцкага Блёку зь іншых краёў (Канады, Ангельшчыны ды Заходняй Нямеччыны) ды каля 500 запрошаных гасьцей з амэрыканскага палітычнага сьвету. Віталі Кангрэс Прэзыдэнт ЗША Р. Рэйган, Віцэ-прэзыдэнт Дж. Буш, палітычны прадстаўнік губэрнатара штату Нью Ёрк ды шэраг прадстаўнікоў розных амэрыканскіх палітычных арганізацыяў і грамадзкіх установаў.

Агульная тэма зьезду была „Наймацнейшыя Саюзьнікі Захаду", якая шырака насьвятлялася ў дакладах з націскам на тым, што наймацнейшыя палітычныя саюзьнікі заходняе дэмакратыі — гэта паняволеныя камуністычнай сыстэмай народы. У часе зьезду вельмі актыўна працавала сэкцыя моладзі, праводнай тэмай якое было: „Ідэі, якія матывуюць моладзь у вольным грамадстве й паза зялезнай заслонай".

Пра зьезд шырака паведамляў амэрыканскі друк, і, як уважаюць палітычныя назіральнікі, гэты зьезд быў вельмі ўдала арганізаваны.

Беларускія арганізацыі на зьезьдзе рэпрэзэнтаваў сп. Кастусь Мярляк, старшыня Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньня ў Нью Ёрку.

**Госьць**

## „АКАФІСТ ЗА ЎПАКОЙ ПАМЕРШЫХ"

У выдавецтве Міколы Прускага, для ўжытку вернікаў БАПЦ, выйшаў упяршыню ў беларускім перакладзе (пераклаў сп. Міхась Міцкевіч, рэдагаваў а. Аляксандар Яноўскі) „Акафіст за ўпакой памершых". Невялікага фармату кніжачка (17 балонак друку) густоўна аформленая й выдадзеная на добрай паперы.

Набыць яе можна ў парафіі БАПЦ у Гайлэнд Парку, Н. Дж.

BAOC
9 River Rd.
Highland Park, N.J. 08904

Ахвяры за „Акафіст" будуць скарыстаныя на выданьне напрастольнага Евангельля, якое ўжо ў працэсе друкаваньня.

## АБВЕСТКА

Паведамляем новы час і кароткія хвалі, на якіх перадаецца рэлігійная радыёпраграма „Добрая вестка" ў беларускай мове:

1) Із станцыі „Голас дружбы", KGEI, Сан Францыска, Каліфорнія: **сыботамі а гадз. 05:00 паводля Грынвіча на хвалі 41 мэтар (паводля санфранцыскага часу): пятніцамі а гадз. 21:00. Таксама чацьвяргамі а гадз. 10:30 паводля Грынвіча на хвалі 49 мэтраў (паводля санфранцыскага часу: серадамі а гадз. 02:30).**

2) Із станцыі „Транс Сусьветнае Радыё", Монтэ Карлё: панядзелкамі а гадз. 18:50 паводля Грынвіча (улетку: 17:50 паводля Грынвіча) на хвалі 25 мэтраў.

Сардэчна запрашаем усіх слухаць, хто мае каротка-хвалёвыя радыяпрыёмнікі.

**Юрка Рапэцкі**

# ДА БЕЛАРУСАЎ У АДЭЛЯЙДЗЕ

Дарагія браты й сёстры Беларусы ў Адэляйдзе!

Падаю Вам да ведама, што паўдзённа-аўстралійскі ўрад будзе адзначаць у 1986 годзе вялікі юбілей — 150-годзьдзе існаваньня Паўдзённай Аўстраліі. У сувязі зь юбілейнай урачыстасьцяй урад пастанавіў адчыніць у 1985 годзе гістарычны музэй этнічных групаў. Запрошаныя ўсе нацыянальнасьці, у тым ліку й мы, Беларусы, узяць удзел у арганізаваньні музэю і адчыніць там свой Беларускі Куток, які будзе адлюстроўваць гісторыю, ды напамінаць наведвальнікам, што тут жылі Беларусы й бралі ўдзел у разбудове Аўстраліі. Дзеля гэтага я заклікаю ўсіх Беларусаў Паўдзённай Аўстраліі і цэлае Аўстраліі не адкладваць гэтую важную справу, а рыхтаваць і прыносіць экспанаты для музэю, хто якія можа, г.зн. беларускае нацыянальнае адзеньне, ручнікі, хусткі, дзяружкі, мастацкія вырабы, сувэніры, фатаграфіі з жыцьця пераходных і канцэнтрацыйных лягероў у Нямеччыне, а таксама з жыцьця ў Аўстраліі. Па інфармацыю зьвяртайцеся да мяне.

**Янка Ролсан**

Mr. J. Rollson
2/9 Anglers Court
West Lakeks Shore, 5020 S.A.

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

**ЗША**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Ф. Бартуль | $ 115.00 |
| 2. | Л. і А. Беленіс | 100.00 |
| 3. | Г. Буцька | 100.00 |
| 4. | В. і М. Махнач | 100.00 |
| 5. | С. Стаськевіч (замест кветак на магілу сп.п. П. Трысмакова) | 40.00 |
| 6. | І. і В. Пануцэвіч | 30.00 |
| 7. | А. Філістовіч | 25.00 |
| 8. | М. Александровіч | 25.00 |
| 9. | Г. Сенькевіч | 25.00 |
| 10. | П. Конюх | 20.00 |
| 11. | І. Гуткоўскі | 20.00 |
| 12. | А. Чарнацкая | 20.00 |
| 13. | М. Каленік | 20.00 |
| 14. | А. Пілецкі | 20.00 |
| 15. | М. Хмыз | 20.00 |
| 16. | А. Пятроў | 18.00 |
| 17. | В. Косараў | 15.00 |
| 18. | В. Зарэцкі | 15.00 |
| 19. | Н. Лапушынскі | 15.00 |
| 20. | Б. Паўка | 15.00 |
| 21. | Н. Латушкін | 15.00 |
| 22. | В. Пляскач | 15.00 |
| 23. | Н. Орса | 15.00 |
| 24. | А. Айе | 22.00 |
| 25. | В. Пляскач | 10.00 |
| 26. | Кліўленд | 100.00 |

**Разам: $935.00**

**Сабрана на сьвяткаваньні 25 Сакавіка ў Нью Ёрку:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Рагуля | $ 100.00 |
| 2. | Ф. Бартуль | 50.00 |
| 3. | Н. Орса (замест кветак на магілу сп.п. Г. Орса) | 50.00 |
| 4. | М. Заморскі | 50.00 |
| 5. | З. і В. Кіпель | 50.00 |
| 6. | Я. Сажыч | 25.00 |
| 7. | М. Абрамчык | 20.00 |
| 8. | А. Андрыца | 20.00 |
| 9. | М. і К. Верабей | 20.00 |
| 10. | Л. Корчык | 20.00 |
| 11. | Л. Норык | 20.00 |
| 12. | П. і К. Рамана | 20.00 |
| 13. | У. Русак | 20.00 |
| 14. | Р. Станкевіч | 20.00 |
| 15. | К. Мерляк | 15.00 |
| 16. | Я. Азарка | 10.00 |
| 17. | Я. Каханоўская | 10.00 |
| 18. | А. Мацукевіч | 10.00 |
| 19. | А. Шукелайць | 10.00 |
| 20. | Л. Стагановіч | 10.00 |
| 21. | З. Станкевіч | 10.00 |
| 22. | М. Тулейка | 10.00 |
| 23. | С. Гутырчык | 5.00 |
| 24. | П. Кажура | 5.00 |
| 25. | І. Шульжыцкі | 5.00 |
| 26. | Е. Рыжы | 1.00 |

**Разам: $ 581.00**

**Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча — падпіска й ахвяры:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Корбут | $ 30.00 |
| 2. | П. Кажура | 30.00 |
| 3. | Ч. Ханяўка | 30.00 |
| 4. | В. Машанскі | 25.00 |
| 5. | Ю. Станкевіч | 25.00 |
| 6. | А. Субота | 25.00 |
| 7. | К. Стрэш | 20.00 |
| 8. | К. Міранові | 20.00 |
| 9. | В. Дубяга | 20.00 |
| 10. | Р. Галяк | 20.00 |
| 11. | С. Дубоўскі | 20.00 |
| 12. | А. Непейн | 20.00 |
| 13. | А.С. | 20.00 |
| 14. | А. Даніловіч | 20.00 |
| 15. | С. Гурын | 20.00 |
| 16. | М. Мядзейка | 15.00 |
| 17. | М. Януш | 15.00 |
| 18. | Я. Літвіненка | 15.00 |
| 19. | І. Харавец | 15.00 |
| 20. | Л. Шурак | 15.00 |
| 21. | Ю. Азарка | 15.00 |
| 22. | Я.М. | 15.00 |
| 23. | Я. Цыган | 15.00 |
| 24. | А. Стукаліч | 15.00 |
| 25. | І. Цупрык | 15.00 |
| 26. | М.К. | 15.00 |
| 27. | Я. Яновіч | 10.00 |

**Разам: $ 515.00**

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | К. Акула | $ 17.62 |
| 2. | Ж. Харэвіч | 17.62 |
| 3. | Р. і В. Жук-Грышкевіч | 20.00 |
| | **Разам:** | **$ 55.24** |
| 4. | В. Гуцько | 75.00 |
| 5. | Я. Бурдзь | 75.00 |
| 6. | М. Такушэвіч | 75.00 |
| 7. | К. Шыкалюк | 75.00 |

**Разам: кан. дал. 300.00**

**БЭЛЬГІЯ**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Н. Валетоў ...... б. фран. | 1000 |
| 2. | Р. Занкоўскі | 650 |
| 3. | А. Арэшка | 650 |
| 4. | Л. Клыбік | 500 |
| 5. | З. Смаршчок | 500 |
| 6. | І. Саўка | 500 |
| 7. | М. Саўка | 500 |
| 8. | Я. Жучка | 500 |
| 9. | П. Барысік | 500 |

**Разам: 53000**
**у ам. дал 82.79**

**НЯМЕЧЧЫНА**

М. Сенька ........ $ 30.00

**АЎСТРАЛІЯ**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Я. Ролсан | $ 30.00 |
| 2. | М. Раецкі | $ 27.00 |
| 3. | М. Нікан ........ аўстр. дал (за калядн. він.) | 20.00 |

**Праз сп. У. Акавітага з Адэляйды:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | П. Пачопка аўстр. дал. | 30.00 |
| 2. | М. Бурнос | 30.00 |
| 3. | У. Акавіты | 20.00 |
| 4. | В. Зеленеўскі | 20.00 |
| 5. | К. Станкевіч | 20.00 |
| 6. | В. Цітовіч | 20.00 |
| 7. | Я. Ролсан | 20.00 |
| 8. | У. Калесьніковіч | 20.00 |
| 9. | М. Костышын | 20.00 |
| 10. | В. Міленцэвіч | 20.00 |

**Разам: аўстр. д. 220.00**
**ам. дал. 146.08**

**Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!**

## ДАПАМОГА БЕЛАРУСАМ У ПОЛЬШЧЫ

У 1985 г. наступныя асобы склалі ахвяры на дапамогу Беларусам ў Польшчы:

| | |
|---|---|
| Ул. Набагез | $ 100.00 |
| А.О. Рамана | $ 54.00 |
| Ю. Андрусышына | 20.00 |
| Е. Норык | 30.00 |
| Н.О. | 36.00 |
| А. Шукелойць | 25.00 |
| Я. Каханоўская | 25.00 |
| Я. Юхнавец | 9.00 |
| В. Бартуль | 8.00 |
| А. Русак | 10.00 |
| Ю. Азарка | 5.00 |
| З. Кіпель | 20.00 |
| М. Заморскі | 35.00 |
| Ю. Корчык | 20.00 |
| А. Адамовіч | 70.00 |
| Р. Галяк | 20.00 |
| С. Гутырчык | 15.00 |
| Р. Станкевіч | 10.00 |

**Разам: 512.00**

**За гэтыя ахвяры ў першай палове сёлетняга году было выслана 15 пачак і адзін грашовы пераказ.**

Усім ахвярадаўцам шчыры дзякуй.

Нажаль, нашая каса засталася амаль парожная, дык зварачаемся йзноў з просьбай да ўсяго грамадзтва падтрымаць нашую дапамаговую дзейнасьць.

Просім прысылаць ахвяры на адрыс:

Mrs. A.O. Romano
172 Mill Spring Rd.
Manhasset, N.Y. 11030

**А.О. Рамана**
**Ю. Андрусышын**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

На Выдавецкі Фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ахвяравалі:

Удзельнікі 6-е Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі (праз сп. Я. Ролсана) $138.36

Сп-ня Н. Орса заміж вянка на магілу с. п. П. Трысмакова $25.00

**Разам: $163.36**

## ЭТНІЧНЫ ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ

**Этнічная Рада Штату Нью Джэрзы паведамляе, што 7-ы чародны Фэстываль Этнічнае Культуры нацыянальных групаў штату ў Парку Свабоды ў горадзе Джэрзы Сіты адбудзецца 7-8-га верасьня сёлета.** Зацікаўленыя групы могуць зьвяртацца на адрыс:

Mr. Juhan Simonson, Coordinator,
Office of Ethnic Affairs
N. J. Dept. of State
State House CN 300
Trenton, N. J. 08625